www.nv-online.info

№ 94 (4243)

28 лістапада 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

Да ўвагі!
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Што падарыць родным і блізкім на Новы год?

### Падпіску на «Народную Волю»!

І будзьце ўпэўнены – Вам усе будуць удзячны. Кожны раз, калі ў іх руках будзе свежы нумар газеты, узгадаюць Вас добрым словам.

Падпіску на "Народную Волю" можна аформіць на любы адрас у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку" на ўсю першую палову 2018 года альбо на абмежаваны тэрмін – на месяц, два, квартал…

Наперадзе доўгія зімовыя вечары. І Вашы бацькі, сваякі, сябры, як і Вы, з задавальненнем будуць знаёміцца з цікавымі матэрыяламі "Народнай Волі". А наперадзе шмат падзей, якія знойдуць рознабаковае адлюстраванне на старонках газеты.

Падпіска на "Народную Волю" не моцна адаб'ецца на Вашым бюджэце (месячны кошт – 6 рублёў 99 капеек), але, паверце, будзе самым лепшым навагоднім падарункам для Вашых родных і блізкіх.

**Рэдакцыя.**

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## НАУЧЕНЫ

«Меру пресечения обвиняемому изменить с подписки о невыезде на заключение под стражу, заключив под стражу в зале суда», – долгий судебный процесс над директором бобруйского «Водоканала» Олегом Титовым закончился приговором в четыре года лишения свободы, конфискацией имущества и запретом занимать руководящие должности в течение пяти лет.

«Это был какой-то показательный процесс», – пишут пользователи интернета под материалами бобруйских газет о финале дела, которое имело широкую огласку в регионе. Вот только кому и что наша правоохранительная система хотела показать?

Главным вещдоком в суде являлось озеро Белый Берег, вернее даже – мелиоративная канава, которая, пройдя по старому руслу Березины, восстановила верхнюю протоку, питающую озеро, любимое место отдыха бобруйчан. Это спасло его от зарастания, заболачивания и высыхания. Этим же каналом в озере было восстановлено нерестилище. Во время лесных пожаров канава стала пожарным водоемом. Кроме того, от водоводов, питающих Бобруйск, убрали болото, чем увеличили срок их службы, создали возможность подъезда техники для скорейшей ликвидации аварий. Однако задумка была еще круче: очистить озеро, построить здесь базу отдыха – и зарабатывать и отдыхать.

Но в 2015 году появилась анонимка в КГБ, после которой все стало выглядеть совершенно по-иному. И прозвучали обвинения в совершении преступлений, предусмотренных частью 3 статьи 426 «Превышение власти или служебных полномочий» и частью 2 статьи 269 «Порча земель» Уголовного кодекса Беларуси. Выяснилось, что канал длиной около километра, соединивший северную оконечность озера Белый Берег с Березиной, проложили на землях, принадлежащих СПК «Рассвет им.К.П. Орловского» и ОАО «Агромашсервис» (что де-юре является самовольным захватом земли), а во-вторых, без проведения предварительных изыскательских работ и разработки проектно-сметной документации.

Странно все это, конечно. Ведь канал не за один день вырыли. Где были СПК «Рассвет» и ОАО «Агромашсервис», когда работы на их землях только начинались? Где была землеохранная служба, куда смотрели разнообразные контролеры?

Что касается проекта, то Титов утверждает, что проводились ремонтные работы, на которые проектно-сметная документация не требуется; прокуратура, а за ней и суд посчитали, что требуется: неспециалисту сложно разобраться. Но суть-то в другом: нужен этот канал или не нужен? Вред от него или польза?

Судя по всему, польза.

– Я в какой-то момент даже предложил закопать канал, – рассказал Олег Титов местной газете «Коммерческий курьер». – Но получил ответ: «Исполняйте решение суда». Если его не хотят закапывать – значит, он нужен. Да за три года отстранения от работы я бы сам, с лопатой и тачкой, его закопал…

Действительно, что может быть логичнее: если канал не нужен – закопать его, взыскать с виновных средства на его прокладку и ликвидацию, да еще штраф сверху добавить, чтобы неповадно было. Ну а если нужен, то за что директора отправили в колонию? За то, что пытался очистить зарастающее тиной озеро Белый Берег?

В чем смысл таких судов? В чем смысл наказания, связанного с лишением свободы, для людей, которые не представляют опасности для общества и, наоборот, пытаются что-то для общества сделать?! Ведь в деле Титова никакой корысти не нашли. Вернее, за неимением ничего иного поставили в вину то, что другим ставят в заслугу, – «вменили» желание установить на предприятии авторитарный стиль руководства.

– Приговор понятен? – в завершение процесса спросила судья.

– Понятен, – ответил Титов перед тем, как на него надели наручники.

И всем понятно, что если бы сидел он тихо над ржавыми водопроводными трубами да регулярно наверх о бедах своего хозяйства постанывал, то и сегодня директорствовал бы. Более того, еще бы и субсидии из бюджета получал на бедность, на ремонт и аврал.

Если бы он не Белый Берег чистил, а делал ежегодно ремонты в своем кабинете, то никто бы его за это не наказал.

Если бы не проявлял инициативу, то и не оказался бы в колонии…

Поэтому – да, процесс весьма показательный. Автор той злополучной анонимки в КГБ, с которой и началось это дело, видимо, сейчас должен быть счастлив. Возможно, именно он, а не бобруйский «Водоканал», через некоторое время начнет строить базу отдыха на озере с красивым названием Белый Берег. Инфраструктура Титовым подготовлена, озеро задышало, канал к Березине есть – его только до ума довести. Ну а главное – теперь местные начальники госпредприятий проявлять никакой такой инициативы не будут. Научены...

ДЫПКУР'ЕР

## Алена Купчына – старшыня Генеральнай канферэнцыі ЮНІДА






Учора ў Вене пачала работу 17-я сесія Генеральнай канферэнцыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па прамысловым развіцці (ЮНІДА), у якой удзельнічае каля двухсот дэлегацый дзяржаў – членаў ЮНІДА, а таксама ўстаноў сістэмы ААН, міжурадавых і няўрадавых арганізацый.

Беларускую дэлегацыю на форуме ўзначальвае пасол Беларусі ў Аўстрыі, пастаянны прадстаўнік нашай краіны пры міжнародных арганізацыях у Вене **Алена Купчына**. Яе ж абралі старшынёй сесіі.

*«Прадстаўнік Беларусі ўпершыню абраны на пасаду кіраўніка сесіі галоўнага палітычнага органа ўніверсальнай міжнароднай арганізацыі сістэмы ААН,* – адзначылі ў МЗС Беларусі. – *Абранне прадстаўніка Беларусі на дадзены пост сведчыць аб высокім аўтарытэце нашай краіны як у рамках ЮНІДА, так і на міжнароднай арэне ў цэлым».*

Купчына будзе выконваць абавязкі старшыні да наступнай чарговай сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНІДА, якая пройдзе ў 2019 годзе.

У Міністэрстве замежных спраў нагадалі, што *"генеральная канферэнцыя з'яўляецца вышэйшым органам ЮНІДА, яна вызначае кіруючыя прынцыпы і палітыку арганізацыі на бліжэйшыя два гады, ухваляе праграму працы, рэгулярны і аператыўны бюджэты, сочыць за эфектыўным выкарыстаннем фінансавых рэсурсаў ЮНІДА".*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Па справе ўкраінскага топ-менеджара затрыманы галоўны металург МТЗ

Беларускімі праваахоўнымі органамі затрыманы намеснік галоўнага інжынера па падрыхтоўцы металургічнай вытворчасці – галоўны металург МТЗ Андрэй Карась і яшчэ некалькі работнікаў трактарнага завода. Пра гэта TUT.BY паведамілі дзве не звязаныя адна з адной крыніцы.

*«На заводзе затрымалі групу з некалькіх чалавек, якія за адпаведнае ўзнагароджанне купляли ліцейныя матэрыялы. Група дзейнічала даўно. Пры гэтым якасць сыравіны часам выклікала пытанні»,* – сказаў суразмоўца. Паводле яго слоў, адным з затрыманых з'яўляецца галоўны металург МТЗ Андрэй Карась.

Яшчэ адна крыніца сказала, што падзеі на МТЗ – гэта працяг гісторыі з затрыманнем украінскага топ-менеджара. *«Адны патрабавалі* (адкат. – **Рэд.**), *другія давалі»*, – сказаў ён.

На МТЗ сказалі, што з 21 лістапада абавязкі галоўнага металурга завода выконвае іншы чалавек. Аб месцазнаходжанні Андрэя Карася на заводзе нічога не вядома.

Тыдзень таму ўкраінскія СМІ паведамілі пра затрыманне ў Мінску дырэктара Завода уцяжарвальнікаў (Канстанцінаўка, Данецкая вобласць) Аляксандра Скібы.

Атрымаць каментарый у КДБ не ўдалося.

ЧУЛІ?

## У «Газпром центра» новы генпадрадчык

У студзені 2018 года плануецца аднавіць будаўніцтва шматфункцыянальнага комплексу "Газпром центр", з-за якога знеслі будынак аўтавакзала "Маскоўскі". Як вядома, у 2018 годзе планавалася здаць гэты аб'ект. А распачалася будоўля яшчэ ў 2014 годзе.

*"Нядаўна вызначаны новы генпадрадчык, які працягне работы на аб'екце. Гэта замежная кампанія. Цяпер ідзе прапрацоўка і падпісанне дамоўных адносін паміж замоўцам і падрадчай арганізацыяй",* – паведаміў першы намеснік старшыні Мінгарвыканкама **Фёдар Рымашэўскі**. Ён дадаў, што найперш адновіцца будаўніцтва высотнай часткі комплексу.




СТАЛА ВЯДОМА...

## Паўлу Шаройку выстаўлена афіцыйнае абвінавачанне

Грамадзяніну Украіны журналісту Паўлу Шаройку, затрыманаму ў Беларусі, выстаўлена абвінавачанне па артыкуле 358 Крымінальнага кодэкса (шпіянаж).

Ці выстаўлена абвінавачанне грамадзяніну Беларусі, які таксама быў затрыманы па падазрэнні ў шпіянажы, КДБ пакуль не вядома.

Паводле інфармацыі КДБ, Шаройка *«стварыў агентурную сетку з грамадзян Беларусі, якія за грашовую ўзнагароду выконвалі яго заданні па зборы звестак разведвальнага характару ў ваеннапалітычнай сферы».* Яго дзейнасць каардынаваў супрацоўнік галоўнага ўпраўлення разведкі Мінабароны Украіны Ігар Скварцоў, які дзейнічаў пад прыкрыццём пасады саветніка пасольства Украіны. Скварцоў быў абвешчаны персонай нон грата і 25 кастрычніка высланы з Беларусі.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## «Без комментариев!» Почему?

«Так и запишите: я это не комментирую!» – заявил газете «Наша Ніва» пресс-секретарь Министерства обороны Владимир Макаров.

Что он не собирается комментировать? То, что в распоряжении украинского военного аналитика Дмитрия Тымчука оказались бумаги, в которых написано, что белорусская сторона якобы изучает возможность размещения на территории нашей страны российской ракетной базы.

Я сейчас не о самой возможности: она наверняка имеется, поскольку, помнится, в давние времена помощник президента Беларуси по особым поручениям Виктор Кучинский (тот самый, который получил прозвище «гранатометчик») публично скорбел о том, что мы так опрометчиво расстались с ракетным вооружением. Но распилить ракеты – одно, а базу под них уничтожить – совсем другое. О том, что базу уничтожили, публично пока не говорилось.

Я сейчас говорю о нежелании официального должностного лица комментировать подобную информацию, а это значит выполнять свои прямые функциональные обязанности.

Подождите, Владимир Матвеевич, а кто тогда должен ее комментировать? Или Вы считаете, что комментировать тут нечего?

Согласно Конституции, наша страна является безъядерной, а речь идет как раз о размещении ракет, обладающих способностью доставлять ядерные боеголовки. То есть посторонний мужик, можно сказать – с улицы, обвиняет наше высшее руководство (ибо кто еще должен будет принимать соответствующее решение?) в готовности эту Конституцию нарушить? И Вы не вступаетесь за это самое руководство? Или Вы считаете, что на нем и так от нарушений Конституции клейма ставить негде, – потому и не заступаетесь? Тогда Вам самое место в нашей оппозиции, благо, некоторые Ваши заявления вольно или невольно подтверждают ту оценку, которую дает нашему государству большинство уважающих себя оппозиционеров. И вот опять на пустом месте Вы даете основания для возникновения слухов и подозрений. Ибо скажи Вы:

– Никаких ракет у нас не будет!

– и все вопросы снимаются. Но – да, конечно, это уже и будет комментарий. А комментировать Вы почему-то не хотите. Наверное, не хотите, чтобы Вас в будущем можно было поймать на вранье? Ибо никак иначе эту ситуацию я себе объяснить не могу.

Задача пресс-секретаря состоит в том, чтобы комментировать, объяснять, давать объективную информацию. Уклоняться от этого – значит признаваться, что ты либо не обладаешь этой самой объективной информацией, либо не имеешь права ее давать. А значит, в данном случае косвенно подтверждать справедливость высказанных подозрений.

При чем тут украинские шпионы? При чем, если в ответ на прямой вопрос пресс-секретарь главного военного ведомства страны занимает позицию, которая не развеивает, а порождает слухи?

До сих пор каждое новое сообщение об очередном, мягко выражаясь, «недоразумении» вокруг строящейся Островецкой АЭС порождает волну протестов как в белорусском обществе, так и за пределами страны. Сегодня – и это ни для кого не секрет – «мирный атом» стал главным предметом разногласий с нашим ближайшим соседом – Литвой. А ведь еще совсем недавно госпожа Грибаускайте была едва ли не лучшей подругой нашего президента на международной арене. Сейчас к проблеме АЭС прибавляется проблема возможного («изучаемого вопроса», да?) размещения на нашей территории российских ракет, а пресс-секретарь родного Министерства отказывается хоть как-то всем нам прояснить ситуацию. То есть появляется еще одна точка напряженности – уже не с Вильнюсом, а с Киевом, который и без того справедливо считает, что все дружеские заверения белорусской стороны можно отправить в направлении, в котором нерадивые пресс-секретари отправляют гулять излишне любопытных иностранных корреспондентов. Ибо смешно считать, что в случае возвращения на нашу территорию ракет они будут угрожать, скажем, Германии или Соединенным Штатам. Тем более – если ракеты будут, а ядерных боеголовок не будет. Тогда уж точно – не на Вашингтон их нацелят.

Так что повод для вопросов пресс-секретарю Министерства обороны есть. И, возможно, не только ему. Но его noblesse oblige, как говорят в известной стране – члене НАТО, – служебное положение – обязывает комментировать подобную информацию в первую очередь.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Шаг вперед!

Деловое сообщество положительно оценивает подписанный президентом декрет №7 «О развитии предпринимательства». Многие предложения бизнес-сообщества нашли свое отражение в этом документе. Он вводит понятие презумпции добросовестности субъектов хозяйствования, уведомительный принцип открытия своего дела. Запрещается поднимать ставки и вводить новые налоги до 2020 года. Торговым предприятиям разрешили самостоятельно устанавливать график работы и формировать ассортиментный перечень товаров. В гаражах можно открывать СТО, интернет-магазины получат право переходить на упрощенную систему налогообложения…

Вместе с большей свободой декрет добавляет и ответственности руководителям. Они могут быть наказаны штрафом от 10 до 200 базовых величин. В частности, за непринятие необходимых мер по надлежащей организации деятельности предприятия в соответствии с установленными законодательством требованиями, что повлекло причинение вреда государственным или общественным интересам, окружающей среде, жизни, здоровью, правам и законным интересам граждан.

Декретом предусмотрена профилактическая, превентивная работа контролирующих органов, которых, кстати, остается еще великое множество. Теперь в случае несоответствия ведения бизнеса требованиям законодательства хозяйствующему субъекту контрольные органы могут предоставить предписания и рекомендации, как устранить допущенные нарушения в установленный срок. И только если по истечении этого срока нарушения не устранены, будут применяться санкции.

Вместе с тем представители бизнес-сообщества отмечают некомплексный характер документа. В его содержании чувствуется стремление учесть многие предложения и пожелания бизнесменов, то есть приспособиться к существующим реалиям. От этого декрет выглядит эклектичным, страдает его целостность как нормативного акта. Местами он имеет декларативный характер.

По мнению других аналитиков, декрет более полезен начинающим предпринимателям. Они могут уменьшить свои затраты на открытие и организацию бизнеса. Им не потребуется обивать столько кабинетных порогов, преодолевая бюрократические процедуры, как это было ранее. Новое предприятие сможет быстрее начать работу. Действующий бизнес ожидал от этого документа большего. Прежде всего снижения налогового бремени, улучшения доступа к кредитным ресурсам, еще большего снижения регуляторной нагрузки, уменьшения затрат на сертификацию товаров. В который раз было отмечено, что налоги взимаются с отгруженной продукции, а не с реализованной. Что целесообразно вернуться к кассовому методу учета реализованной продукции. Это в большей мере отвечает положению дел в белорусской экономике, где много предприятий с уязвимой платежеспособностью и низкой платежной дисциплиной.

Появление декрета и в таком виде свидетельствует о том, что власти наконец приходят к пониманию того, что без ускоренного развития малого и среднего бизнеса не поднять белорусскую экономику. Особенно в регионах, на периферии, где нет работы, а немногие существующие предприятия закрываются. Важными будут и вопросы имплементации декрета №7. Еще памятна директива №4, которая имеет прогрессивное содержание, но которую местные чиновники сумели выхолостить бюрократической применительной практикой.

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

# Настальгія па радыёкропцы і тэхнічныя нестыкоўкі

Як чалавеку немаладому, з савецкімі звычкамі, мне не хапае так званай радыёкропкі. Прыёмнік бубнеў на кухні амаль круглыя суткі. Пленумы ЦК, "Весткі з палёў", "Навіны саюзных рэспублік" вуха прапускала. Дакладны час, прагноз надвор'я, канцэрты па заяўках, тэатральныя пастаноўкі на беларускай мове, казкі для маленькіх у прафесійным выкананні… Ведалі мы і пра новабудоўлі, на слыху былі вядомыя імёны.

Пакуль радыё не маўчала, людзі не сядзелі на канапе. Слухалі і нешта рабілі. Каштавала гэтая кропка капейкі. Абяцалі ўзамен яе выпусціць недарагія прыёмнікі для пенсіянераў. Не зрабілі.

Цікава, як ставіцца да ліквідацыі радыёкропкі грамадзянская абарона? Раней адказным ад калектываў на занятках па грамадзянскай абароне гаварылі, што тэхнічна прадугледжана магчымасць прымусовага ўключэння радыё, нават калі прыёмнік устаноўлены на нуль гуку. Не ведаю, ці так яно было.

Небездакорнай (тут ужо ніякіх асабістых эмоцый) уяўляецца мне ліквідацыя традыцыйнай тэлефоннай сувязі. Тэлефонная лінія функцыянавала незалежна ад электрычнай сеткі. Нават калі ўжо з'явіліся радыётэлефоны ды прападала электрычнасць, можна было ўзяць звычайны апарат і падключыцца да тэлефоннай лініі. Уявіце сабе выпадак, калі цяпер прападае электрычнасць, а ваш мабільны тэлефон не зараджаны (або недзе згубіўся, або сапсаваўся, або ў вас яго проста няма), і няма побач нікога, але вам трэба выклікаць "хуткую дапамогу" ці пажарных. Што тады рабіць? Я жыву ў цэнтры горада, але ж электрычнасць прападае часам на некалькі гадзін. Так што прыходзіцца трывожыцца, каб мабільнік быў заўсёды напагатове.

# Святлодыёдныя лямпы і ці існуе гармонія дзяржавы і прыватніка?

Цяжка падлічыць, колькі разоў кіраўнік дзяржавы казаў пра неабходнасць эфектыўнай сістэмы рэагавання на звароты грамадзян. І што маем?

Раскажу пра свае "звароты" з нагоды ўсталявання ў пад'ездзе нашага дома (Мінск, праспект Машэрава) святлодыёдных плафонаў. Усе мы помнім той час, калі лямпачкі на 60–75 Вт то перагаралі, то іх нехта краў, то ЖЭС абяцала ставіць новыя, але не ставіла. Але ж кожная ЖЭС мела сваю дыспетчрскую службу, і можна было персаніфікавана вырашаць праблему: не дазваніўшыся, прыходзіш у ЖЭС, і хоць праз гвалт, але нешта рухаецца.

Цяпер ёсць агульнагарадская служба 115. Тэлефонны кантакт хуткі, дзяўчаткі ветлівыя, пад запіс фіксуюцца прэтэнзіі. Толькі што далей? Хто адказвае? Раней на стаўцы ці на палову стаўкі ў ЖЭСе быў электрык. А цяпер мантаж святлодыёдных асвятляльнікаў робяць высокакваліфікаваныя спецыялісты з падраднай арганізацыі. Яна можа быць дзяржаўнай, можа быць прыватнай, можа збанкрутаваць.

Цяпер па парадку пра казус у нашым пад'ездзе. Выбачаюся за тэхнічныя падрабязнасці перад тымі, хто з гэтым ужо сутыкаўся. Святлодыёды – добрая рэч. Эканомія – разоў у дзесяць. Адзін асвятляльнік спажывае, напрыклад, 7 Вт, а свеціць як лямпачка напальвання на 60 Вт, а то і лепш. Можа, паводле сцвярджэння пашпарта, свяціць 50.000 гадзін (да страты 30% яркасці). Гэта гады тры. Праўда, рэч не танная, ды і мантаж каштуе прыблізна трэць ад цаны самога прыбора (даныя з інтэрнэту і асабістага досведу).

Самы танны асвятляльнік на беларускім рынку – без датчыка гуку ці руху – каштуе 11–12 рублёў. Мантаж – мінімальна ад 2 у.а. і вышэй. Гэта камерцыйная тайна (дамова, тэндар у залежнасці ад колькасці і да т.п.). Канструкцыя з датчыкам гуку каштуе да 13–15 рублёў, з датчыкам руху – даражэй, універсальная – самая дарагая.

У светлую частку сутак ліхтар "спіць" дзякуючы фотадатчыку блакіроўкі ўключэння. Калі сцямнее, блакіроўка выключаецца, аўтаматычна ўключаецца дзяжурная падсветка (бярэ менш за 0,5 Вт). Датчык спрацоўвае на гук (крокі) 40–50 дэцыбел. Параўнайце з калонкамі, калі слухаеце музыку. Святло захоўваецца амаль хвіліну. Хапае часу знайсці ключ і адчыніць дзверы ў тамбур. Так павінна быць.

Але ў нас так не было. У верасні бягучага года брыгада хлопцаў у прыгожых камбінезонах, стоячы на бліскучых новенькіх драбінах, устанавіла ў нашым пад'ездзе на кожным паверсе на ўваходных дзвярах у 4-кватэрны калідор і на пляцоўках паміж паверхамі (побач з акном на ўсю сценку) мініяцюрныя плафончыкі са святлодыёднымі лямпачкамі і датчыкам гуку. Усяго 17. Хлопцы пайшлі, калі сонца свяціла акурат у вялікія вокны паміж паверхамі. Але асвятляльныя прыстасаванні… працягвалі гарэць дзень і ноч. Назіраў я за гэтым морам святла тыдні два. Дробязь, думаю, але ж накручваюць мадэрновыя дэвайсы свае ваты-кілаваты на наш "групповой прибор учета потребленной электроэнергии». Гэта ж уплывае і на тыя "эканамічна абгрунтаваныя" тарыфы, пра якія ўзгадваў А.Лукашэнка! Разам з гэтымі плафончыкамі гараць і нашы рублі, што бярэ з нас дзяржава на "тэхнічнае абслугоўванне".

Не магу трываць марнатраўства! Трэба ж нешта рабіць. Калькулюю прыблізна: 17 высокатэхналагічных плафонаў па 13 рублёў плюс мантаж кожнага мінімум 4 рублі за штуку раўняецца (221+68) 289 рублёў. У доме 4 пад'езды. Агулам на адзін дом усталяванне гэтых цацак пацягне на 1156 новых рублёў. Сюды яшчэ трэба прыплюсаваць спажыванне энергіі на працягу 24 гадзін гэтымі сімпатычнымі лямпачкамі-кузуркамі: 17x7Вт x24 x 4= 11, 424 кВт·гадзіны. У новым 2018 годзе, калі субсідыі на электраэнергію будуць скасаваны, можна будзе смела акругляць гэтую лічбу да 20. Калі ж гэта ўсё акупіцца?

Тэлефаную ў службу 115. Ветліва адказваюць, запісваюць: перададзім скаргу кіраўніцтву ўчастка №89 ЖЭУ №1. Так цяпер называецца наша былая ЖЭС №89. Чакаю два дні. Ніякіх змен. Званю зноў. Праз два дні зноў нічога. Так пяць разоў.

Іду ва ўчастак 89, пакідаю праз сакратара запіску начальніку ўчастка **Аляксандру Клімавічу Тарбоўскаму**. (Яго няма. Ён – "на тэрыторыі".) Чакаю два дні. Ніякай рэакцыі. Нарэшце лаўлю на рабочым месцы вядучага інжынера ўчастка **Алену Васільеўну Мархотка**. Выкладаю праблему. Яна: "Што вы, мужчына, глуміце галаву? Гэтыя свяцільнікі бяруць такі мізэр… Я была ў вашым доме. Там усё нармальна… Мантаж рабіў ЖЭУ №4. Яны выйгралі тэндар. Была каманда зверху. Яны прыйшлі і паставілі". Я: "Але ж тэхзаданне – ваша. Пры такіх вялікіх падрадах заказчык робіць суправаджальны нагляд, прымае працу, прыёмка павінна была адбывацца двойчы, удзень і ў цёмны час сутак…" . Яна: "Я нічым вам не магу дапамагчы. Ідзіце ў ЖЭУ №4 і гаварыце з імі. У нас няма такіх электрыкаў".

Званю ў ЖЭУ №4 (жыллёва-эксплуатацыйны ўчастак, дзяржаўная падрадная арганізацыя). З трэцяга разу звязваюся па тэлефоне з галоўным інжынерам ЖЭУ №4 **Багданам Аляксандравічам Клімянковым**. Ён: "Так, на вашай тэрыторыі працавалі нашы мантажнікі. Хто пастаўшчык? Такую інфармацыю мы не даём. Ці прыцягваліся пабочныя брыгады? Гэта нашы ўнутраныя праблемы… Ніхто там нічога падмяніць не мог. Тэлефон пастаўшчыка не магу даць. Няма тэлефона пад рукой. Здаецца, гэта былі "Светодиодные технологии». Я: "Як гэта вы не ведаеце? Гэта ж быў тэндар на мантаж дзясяткаў тысяч адзінак…" Ён: "Я не абавязаны вам даваць такую інфармацыю…" Канец сувязі. Праз сакратарку даведваюся, што асвятляльнікі пастаўляла прыватнае гандлёва-вытворчае ўнітарнае прадпрыемства "Святлодыёдныя тэхналогіі", Мінск, вул.Солтыса, 187, офіс 17. Заўсёды насцярожваюся, калі офіс разрэкламаванай фірмы месціцца ў шараговым будынку.

Звязваюся па тэлефоне з названым прадпрыемствам. Надзіва хутка выходжу на дырэктара **Аляксандра Сяргеевіча Рага** (па-руску "Ряго"). Гэта паводле слоў сакратаркі. У адрозненне ад маіх папярэдніх тэлефонных партнёраў сп.Рага надзвычай гаваркі. Я нават пачынаю сумнявацца, што са мной гаворыць дырэктар "ведущего предприятия Республики Беларусь в области разработки и производства энергосберегающих светодиодных источников света» (такая рэклама ў інтэрнэце). Гаворыць ён ад свайго імя: "Я першы ў Беларусі ўжо больш як 10 гадоў таму пачаў выпуск святлодыёдных лямп… Не саміх святлодыёдаў, а лямп. Выпуск святлодыёдаў патрабуе мільённых затрат… На нашу прадукцыю мы маем патэнты. Святлодыёды атрымліваем з Кітая без пасрэднікаў…"

На маю рэпліку пра распрацоўкі Цэнтра святлодыёдных і оптаэлектронных тэхналогій НАН Беларусі і ААТ "Сучасныя святлодыёдныя сістэмы" адказвае, што ніяк з імі не звязаны. Пытаюся, ці бяспечныя кітайскія асвятляльнікі, нагадваючы пра Пастанову Міністэрства аховы здароўя РБ №115 ад 29. 12. 2014, якая абмяжоўвае выкарыстанне святлодыёдных крыніц цяпла ва ўстановах адукацыі, лабараторыях, майстэрнях, паліклініках, шпіталях з прычыны недахопу дакладных звестак пра бяспеку гэтых лямп. Рага адказвае, што гэтыя кітайскія тавары сертыфікаваны ў нас. А лесвіца ж – не школа і не шпіталь.

Прычыну недасканалага функцыянавання вырабаў прадпрыемства, пра якія вяду гаворку, сп.Рага тлумачыць форс-мажорнымі абставінамі: "Прадпрыемства хоць і з'яўляецца прыватным, але, пастаўляючы прадукцыю дзяржаўным арганізацыям, мусіць часам улічваць пэўныя моманты. Летам 2017 года ў Мінску зверху (?) паступіла каманда тэрмінова абсталяваць пад'езды дамоў Цэнтральнага раёна святлодыёднымі лямпамі. Была запатрабавана вялікая спецыялізаваная партыя. На плафонах мы напісалі трафарэтам па-беларуску: "Толькі для Цэнтральнага раёна г.Мінска". Падганялі тэрміны і цэны. Усе ЖЭУ – дзяржаўныя структуры. Яны – бедныя. Што з іх возьмеш! Прыйшлося знізіць цэны амаль да сабекошту… З галоўным інжынерам ЖЭУ №4 **Багданам Аляксандравічам Клімянковым** мы знаёмы асабіста. Заказвалі найбольш танныя асвятляльнікі з датчыкам гуку. У нас была гатовая партыя з вельмі чуйнымі святлодыёдамі. А ваш раён – праспект Машэрава – перанасычаны транспартам, мае месца мікравібрацыя будаўнічых канструкцый. Вось лямпачкі і не заўсёды адключаюцца. І яшчэ адно: прыйшлося прымяніць замест круглых мантажных панэлек прамавугольныя, бо пастаўшчык круглых быў на мяжы банкруцтва і не выканаў свае абавязацельствы. Гэта ўскладніла эфект блакіроўкі ўключэння. Мантажнікі, канешне, павінны былі нас аператыўна праінфармаваць, але яны гэтага не зрабілі… А грошы зарабілі добрыя… На ўсіх ціснулі тэрміны. Будзем папраўляць за свой кошт… Вось каб вы напісалі пра тое, як наш рынак святлодыёдных лямп заліваецца кантрафактам з Расіі…".

Слухаеш і не ведаеш, дзе чыя праўда. Ці прычыны хаваюцца толькі ў паспешнасці паставак ? А можа, кітайцы прыслалі дэфектныя дэталі? Ці, магчыма, мантажнікі з ЖЭУ №4 (ці пабочных брыгад?) штосьці падмянілі ці не так, як мае быць, правялі мантаж? Ці ў стане супрацоўнікі ЖЭУ пракантраляваць кожны асвятляльнік, сабраны на прыватнай фірме? Як можа, напрыклад, наш участак 89 (былая ЖЭС), які фармальна падпарадкоўваецца ЖЭУ №1, патрабаваць сам нешта ад ЖЭУ №4, які выйграў тэндар на мантаж?

Між тым лямпачкі з сімволікай ПГПУП "Святлодыёдныя тэхналогіі" з маркіроўкай «*Светильник светодиодный SIMA-3-H со встроенным датчиком звука*" пакуль працягваюць ярка свяціць днём і ноччу. Так яны замест абяцаных трох гадоў і года не адпрацуюць. І тады зноў па крузе …

**Пётр САДОЎСКІ, мінчанін, пенсіянер.**

(Працяг у наступных нумарах.)

МНЕНИЕ

# Белорусский «куток» в современной казарме

Получил на мобильный телефон несколько фотоснимков, сделанных в казарме и солдатском клубе. Не важно, какие это войска, а важно то, как старательно обустроены бытовые помещения и места культурного отдыха современного военнослужащего.

Вот живой уголок. В нем – растения, птички, рыбки. А вот уголок белорусской культуры (для убедительности – надпись «Куток беларускай культуры»). Здесь собраны горшки, вышивки, соломенные плетенки. Очень мило.

Одно только замечание. Язык военных людей должен быть точным. Поэтому универсальное определение «культура» я бы здесь не использовал. Написал бы конкретно: «Уголок бедного крестьянского быта по мотивам XIX века». А как иначе охарактеризовать собрание предметов практического назначения из глины, соломы и дерева?

Впрочем, не следует забывать, что старая белорусская культура воплощалась также в предметах дорогих и величественных. О таком, например, явлении, как «белорусская резь в Московском государстве» широко пишет «Википедия».

Пусть не обижается офицер-воспитатель, который придумал белорусский уголок, но его композиция с горшками, деревянной



маслобойкой и прялкой вызывает у меня вот какие ассоциации. В 1887 году английский исследователь Теодор Бивэн посетил один из гарнизонов колониальных войск в Британской Новой Гвинее и увидел «куток папуаскай культуры». Дабы солдаты Ее Величества королевы Виктории имели представление о месте своей службы, командование приказало создать этнографическую экспозицию, посвященную аборигенам. В один угол снесли луки и копья, бытовые и культовые предметы туземного населения, что и отметил в своих отчетах Бивэн. Так начиналась практика военно-колониальных музеев.

Согласен я, что соломки-плетенки-вышивки – это тоже белорусская культура. И пусть подобные экспозиции будут в общежитиях для девушек. Однако уверен, что солдату и милиционеру более интересен металл – вооружение и техника. Но тогда почему бы не рассказать современным защитникам Отечества и правопорядка о железоделательной и оружейной, общевоенной культуре белорусов. Материалов на эту тему есть немало. Возьмите с полки популярную историческую энциклопедию и почитайте, например, о металлургической мануфактуре Хрептовичей в Вишневе, основанной в 1773 году. Первая на территории Беларуси доменная печь, производство оружия для повстанцев 1794 года…

Конечно, сложно сегодня найти чугунную гранату и брандкугель мануфактуры Хрептовичей. Некоторых денег стоит муляж казнозарядного штуцера белорусской выделки.

Проще натаскать горшков из отдела сувениров ближайшего универмага и прилепить табличку «Куток беларускай культуры».

Но кто бы мне объяснил, почему домотканые портки – это явление белорусской культуры, а выкованные в Новогрудке латы полководца Юрия Радзивилла – не явление белорусской культуры?

А в общем печально. Благодаря вот таким «куточкам» современный солдат и рядовой милиционер проникаются мыслью, что белорус – это извечный бедолага с дудкой-*жалейкай*.

У французов и германцев были рыцари. У японцев – самураи и ниндзя. А белорусов в лучшем случае изобразят как водевильных поселян и поселянок, занятых поеданием бульбы и отплясыванием «Лявоніхі». В общем же и целом – беспросветные «Пяць лыжак заціркі» и унылые «этнографические типы» из рассказов Змитрока Бядули.

Понятно, что место подобных лузеров – «у куточку», где солома и глиняные черепки…

Если кого-то интересует, где я набрался таких мыслей, то указываю источник: Национальный архив Республики Беларуси, 4-й фонд – стенограммы заседаний Бюро ЦК КП(б) Белоруссии.

Вот, например, конкретный документ: стенограмма от 26 августа 1943 года. Речь шла о перспективах издания нового журнала «Беларусь». Партийный лидер и партизанский главком Пантелеймон Пономаренко так высказался в кругу членов Бюро ЦК КП(б)Б:

«Довольно белорусского мужика изображать в лаптях… Как записано было в 1880 году, что и колтун, и трахома, и мужик в лаптях, и болота, так и до сегодняшнего дня считают, что больше ничего нет. Ищут для показа самые плохие стороны, как будто они являются самыми национальными».

Очень точно подметил когда-то генерал-лейтенант П.К.Пономаренко. Вот бы прислушаться к этим словам современным офицерам-идеологам.

**Сергей КРАПИВИН.**

ЛІЧБА ДНЯ

# 1,844 млрд доляраў

На такую суму ў студзені–верасні прадпрыемствы Мінсельгасхарчу экспартавалі сельгаспрадукцыі. Гэта на 184 млн доляраў больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

Паводле слоў начальніка галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічнай дзейнасці Мінсельгасхарчу Аляксея Багданава, беларуская сельгаспрадукцыя пастаўлялася ў 65 краін.

ФАКТ

# Беларускія трактары будуць збіраць у Таджыкістане

Як паведамляе Пасольства Беларусі ў Таджыкістане, першапачаткова плануецца сабраць 50 трактароў «Беларус-80.1» і «Беларус-82.1». У далейшым штогод на заводзе будуць збіраць да 300 трактароў і больш.

Адметная асаблівасць прадпрыемства ў Гісары – вытворчасць трактароў з нуля і яго ўключэнне ў пералік асабліва важных аб'ектаў Таджыкістана.



ЭКАНОМІКА

# Кітайцы абяцаюць інвестыцыі на 0,5 мільярда долараў

У Беларусі з візітам знаходзіцца старшыня праўлення і прэзідэнт карпарацыі «Мідэа Груп» **Фанам Хунбо**. Гэтая карпарацыя з'яўляецца адным з буйнейшых вытворцаў і экспарцёраў бытавой тэхнікі ў свеце, яна мае свае вытворчыя пляцоўкі ў Кітаі, Італіі, Бразіліі, Аргенціне, Егіпце, Індыі, Японіі, Тайландзе і Беларусі. Учора падчас сустрэчы з Фанам Хунбо **Аляксандр Лукашэнка** заявіў аб гатоўнасці Беларусі падтрымаць новыя сумесныя праекты з кітайскімі партнёрамі.

Пазней віцэ-прэм'ер **Уладзімір Сямашка** ўдакладніў, што Беларусь і «Мідэа Груп» абмяркоўваюць перспектыўныя інвестыцыі на 0,5 мільярда долараў.

*«Яны гатовы прыйсці сюды ў розных формах: укладаць грошы і будаваць новыя прадпрыемствы па вытворчасці бытавой тэхнікі, другая форма – стварэнне СП, трэцяя форма – выкуп гатовага прадпрыемства»,* –цытуе Уладзіміра Сямашку БЕЛТА.

Трэба адзначыць, што кітайская "Мідэа Груп" прысутнічае на нашым рынку ўжо больш за 10 гадоў. У 2007–2009 гады гэтая карпарацыя сумесна з холдынгам «Гарызонт» стварыла беларуска-кітайскае прадпрыемства СТАА «Мідэа-Гарызонт», якое занялося вытворчасцю ЗВЧ-печаў. *«Пачыналі там са 150 тыс. печаў у год. У бягучым годзе выйдзем недзе на 1,1 мільёна. Ёсць ідэя і ўжо фактычна рашэнне аб падваенні вытворчасці да 2 млн печаў у год"*, – адзначыў учора Сямашка.

Акрамя таго, у сакавіку 2016 года на сумесным беларуска-кітайскім прадпрыемстве адбыўся запуск новай вытворчасці кулераў і воданагравальнікаў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

БЕЛАРУСЬ–РАСІЯ

# Пад санкцыямі 54 прадпрыемствы

Пад поўнай або частковай забаронай «Россельхознадзора» на пастаўку прадукцыі ў Расію знаходзяцца 54 беларускія перапрацоўчыя прадпрыемствы. Пра гэта паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічных сувязяў Мінсельгасхарчу **Аляксей Багданаў.**

Ён заўважыў, што гэта як прыватныя, так і дзяржаўныя прадпрыемствы. Багданаў не выключыў, што заўвагі бываюць аб'ектыўныя. *«Але часта ўзнікаюць пытанні, якія ў нас выклікаюць здзіўленне. Як можна, напрыклад, закрыць прадпрыемства для пастаvак з-за памылкі ў накладной? Гэта чалавечы фактар, і закрыццё не паддаецца тлумачэнню»,* – цытуе прадстаўніка Мінсельгасхарчу БелаПАН.

ЁСЦЬ ПРАПАНОВА!

# 1 лістапада зрабіць выхадным днём



*Кіраўнік Каталіцкага касцёла, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч накіраваў ліст Аляксандру Лукашэнку.*



На афіцыйным сайце Касцёла сцвярджаецца, што зроблена гэта ад імя Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі і па яе даручэнні. Біскупы падтрымалі ініцыятыву каталіцкіх вернікаў вызначыць 1 лістапада як выхадны дзень у Беларусі.

*«1 лістапада Каталіцкі касцёл ва ўсім свеце адзначае ўрачыстасць Усіх Святых. У гэты дзень мы таксама наведваем могілкі, і па традыцыі ўжо вечарам гэтага дня набажэнствы цэлебруюцца ў інтэнцыі памерлых, вельмі часта – на могілках»,* – адзначыў арцыбіскуп Кандрусевіч.

Іерарх дадаў, што ў шэрагу краін свету, дзе жывуць католікі і пратэстанты, 1 лістапада на дзяржаўным узроўні вызначаны як выхадны дзень і адпавядае касцельнай традыцыі. Паводле яго меркавання, гэта прывядзе і да балансу з Праваслаўнай царквой, дзе вернікі маюць выхадны дзень – Радаўніцу.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЛЮДИ ДЕЛА

# Два в одном

## Могут ли два человека уживаться в одном?

*«Могут, – считает шкловский фермер Владимир Малиновский. – Во мне живут два человека. Один – максималист, другой – рационалист. И эти два человека никогда не мешают друг другу. Наоборот, помогают мне принимать верные решения».*

1991 год.

Тогда всеми правдами и неправдами люди получали землю, стали гордо называть себя фермерами, а вскоре многие, поняв, что взялись не за свое дело, начали от нее отказываться. За первые три года из шести тысяч созданных хозяйств осталось лишь две тысячи. Случайные хозяева земли, как пена, появились и исчезли. Остались вариться в собственном соку (правда, при некоторой поддержке государства) лишь те, у кого дела пошли неплохо.

Среди тех, кто прочно пустил корни в шкловскую землю, глава крестьянского (фермерского) хозяйства Владимир Малиновский.



Коротко о нем. Женат. Имеет дочь и двух сыновей. Образование высшее. Закончил Белорусскую государственную сельскохозяйственную академию. Инженер-механик. Работал главным инженером колхоза «Правда» Шкловского района, начальником цеха механизации этого же хозяйства. Молодого, энергичного специалиста заметили райком партии и райисполком. Предложили должность председателя колхоза на выбор: в семи сельхозпредприятиях нужно было менять бестолковых руководителей. Выбрал самое отстающее. Понимал, что здесь можно развернуться, проявить себя. До этого две недели анализировал экономику всех семи колхозов, искал резервы выхода из «лежачего» положения. Решил пойти в колхоз имени Ленина.

Почему заостряю внимание на том, как Малиновский неспешно обдумывал свой шаг? Потому что в этом факте, мне кажется, угадывается будущий фермер – хозяин. Он не выбрал то, что «блестит» (где показатели лучше), а пошел туда, где дела обстоят хуже, но есть вероятность все изменить. И в первый же год возглавляемый им колхоз на весенней посевной занял в районе два призовых места: за наибольшее количество внесенных в почву органических удобрений (а без них какой может быть урожай?) и за проведение сева в агротехнические сроки. То есть колхоз впервые за многие годы отсеялся первым. Сейчас Владимир Исакович вспоминает:

– Тогда я работал очень и очень много. И все осмысливал, анализировал каждую деталь. При этом всякий раз задавал себе вопрос: а это я правильно делаю? Может быть, стоило сделать иначе? И никогда не ошибался.

Забегая вперед, скажу: аналитический склад ума не позволил ему ошибиться и тогда, когда он решил отказаться от всех должностей и взять землю, чтобы работать на ней самостоятельно. Десять лет руководства колхозом сформировали его как будущего главу (так называется эта должность) фермерского (крестьянского) хозяйства.

Логично будет спросить у Малиновского, поднял ли он на ноги некогда лежачий на лопатках колхоз за это время?

– Основной показатель производственной деятельности любого колхоза – денежный доход от реализации продукции, – говорит Владимир Исакович. – Когда я принял его в 1970 году, на счету были жалкие гроши, а оставил с доходом 7 миллиардов 400 миллионов рублей. Для меня как инженера было важно и то, что колхоз имени Ленина в 1980 году по итогам республиканского смотра-конкурса на лучший машинный двор занял первое место. На чем только мы не зарабатывали деньги!

И Малиновский начал перечислять: в колхозе наладили производство асфальта, делали сетку Рабица (на ее основе – заборные экраны), освоили выпуск тротуарной плитки и пластмассовых изделий. Даже построили станцию техобслуживания автомашин. Это были так называемые побочные промыслы. Основное же внимание председатель колхоза уделял производству зерна и картофеля, молока и мяса, строительству жилья, созданию нормальных условий для работы и жизни людей. Если кто удивляется, почему у фермера Малиновского, как только он взял землю, дела пошли хорошо, пусть учтет и этот его опыт.

– Мне нравится браться за любое новое дело, если я вижу перспективу, – признается Владимир Исакович. – Поэтому, когда в 1990 году в районе было создано энерготехническое объединение и меня начали сватать на должность генерального директора, я согласился. И сразу же организовал выпуск железобетонных изделий для района, начал прорабатывать вопрос строительства кирпичного завода. Со специалистами нашел месторождение глины, но… через четыре месяца объединение было упразднено. Без работы не остался: в то время по совместительству я занимал должность первого заместителя председателя райпо. Переключился на решение неотложных проблем для хозяйств района. Кому-то нужен был рубероид, кому-то шифер, железобетонные изделия, лесоматериалы и так далее и тому подобное.

Вот здесь-то Владимир Малиновский в полной мере проявил свои организаторские способности. Оценив их, руководство района «под него» создало государственное малое предприятие «Світанак» и предложило ему возглавить эту структуру. Закрутился Малиновский как белка в колесе: стал решать проблемы дефицита того времени – продуктов питания, сигарет, спецодежды и других товаров. Через полгода надоело все это, упал интерес к мелочным делам.

– Меня потянуло к земле, – говорит Владимир Исакович. – А как раз к тому времени, в 1991 году, вышел Закон о крестьянском (фермерском) хозяйстве.

Упустить шанс стать хозяином земли Малиновский не мог. Для этого у него все было: образование, опыт работы на различных должностях, умение решать самые сложные проблемы. И главное – он понимает и чувствует ту землю, на которой родился и вырос. А теперь покажи всем, на что ты способен!

Посоветовавшись с женой, дочерью и сыновьями, создал свое фермерское хозяйство и назвал его по имени дочери – «Диана». Получил 50 гектаров земли (тогда больше не давали) и в первый же год 30 из них отвел под гречиху и 20 – под картофель.

– Гречиха не удалась, – вспоминает Владимир Исакович, – а картофель порадовал. На нем заработал хорошие деньги. 100 тонн даже на Украину продал. Сразу же вернул кредит банку и стал покупать технику. Жена Светлана Стефановна (она у меня работает главбухом и другими делами занимается) заметила: «Получается, у нас производство ради производства. Что заработали, то и вложили в него». «Но мы же не голодаем, – ответил я ей. – Чтобы что-то иметь, надо вначале вложить в это что-то». Подумав, согласилась со мной.

На протяжении трех лет Малиновский выращивал все те же гречиху и картофель. Прибыль с каждым годом стала расти. Покупая технику, фермер активно стал заниматься строительством. Появились ремонтная мастерская, складские помещения, нефтебаза, две зерносушилки, мойка машин, шиномонтаж, офисное здание.

Жил Владимир Исакович пока в деревне, там же и семья. Но когда воры дважды обворовали склады, решил построить жилой двухэтажный кирпичный дом здесь же, в центре производственной базы, – чтобы все, что делается на территории, было видно из окна днем и ночью. Сторожа нет. Собаки нет. Ружья нет. И никто ничего теперь не ворует.

Районное начальство видит, что у фермера дела идут хорошо, урожаи растут, прибыль увеличивается, и предложило ему еще 100 гектаров земли. А потом еще и еще… Сейчас у фермера более 1360 гектаров.

– Больше мне и не надо, – говорит Малиновский. – В этом году выращивал 750 гектаров картофеля и с каждого получил около 400 центнеров клубней. Более 700 гектаров занимали озимая и яровая пшеница, ячмень. Урожай зерновых, несмотря на засушливое лето, вышел рекордный – 74 центнера с гектара (по району – около 50). Рожь и тритикале не культивируем – на рынке большим спросом они не пользуются. 100 гектаров отводим под озимый рапс. Урожаи всех культур неплохие, они выше среднерайонных показателей.

Замечу, фермерское хозяйство «Диана» семеноводческое по всем культурам. А это значит, что здесь они должны выращиваться по современным технологиям. Неудивительно, что Владимир Исакович бывал в Соединенных Штатах Америки, в Голландии, в других странах и изучал там опыт лучших фермеров. А в Германии позаимствовал электронное оборудование для типового картофелехранилища на 15 тысяч тонн. И построил его в кратчайшие сроки.

Когда мы завели разговор об экономике ведения хозяйства, фермер, не глядя в бумаги, на память назвал довольно любопытные цифры. В этом году на 1 рубль, вложенный в производство растениеводческой продукции (животноводством «Диана» не занимается), получится 1,5 рубля. Рентабельность составит 50 процентов – отличный итог работы. Денежный доход от реализации продукции превысит плановые показатели. Это заслуга всего коллектива. Он не такой уж и многочисленный – всего лишь 68 человек вместе с сотрудниками бухгалтерии и главой крестьянского (фермерского) хозяйства.

На вопрос о перспективах хозяйства Владимир Исакович философски рассуждает:

– Во мне живут два человека. Один – максималист, который чего-то добился и хочет еще большего. Другой – рационалист, который, прежде чем что-то сделать, задаст себе вопрос: а мне это надо?

Думаю, эти два человека неплохо уживаются в шкловском фермере. Борьба между ними не позволяет делать грубых ошибок и просчетов. И всегда заканчивается хорошими результатами. Вот уже 26 лет!

**Александр ХОРОБРОВЕЦ.**
*Шкловский район.*

БОКС

# Не пашэнціла…

*Баксёр, якога трэніруе беларускі трэнер, прайграў матч за званне чэмпіёна свету сярод прафесіяналаў.*




Нагадаем, у мінулыя выхадныя суперцяжкавагавік **Аляксандр Усцінаў** (на фота справа) у нямецкім Аберхаўзене сустракаўся з нямецкім баксёрам сірыйскага паходжання **Мануэлем Чарам**. Пераможца атрымліваў пояс чэмпіёна WBA.

Усцінаў (яго трэніруе беларускі спецыяліст Уладзімір Задзіран) добра пачаў паядынак, але ў выніку сапернік перахапіў ініцыятыву і выйграў па ачках.

40-гадовы Аляксандр Усцінаў атрымаў другое паражэнне пры 34 перамогах.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КРИМИНАЛ

# Вскрыта преступная схема в сфере ЖКХ

## *Возбуждено более 50 уголовных дел*

Пресс-служба МВД вчера сообщила, что сотрудниками главного управления по борьбе с экономическими преступлениями МВД вскрыта преступная схема, связанная с освоением денежных ресурсов в сфере ЖКХ. Подозреваемыми оказались руководители ряда госорганизаций, оказывающих жилищно-коммунальные услуги, а также должностные лица частных предприятий. В отношении злоумышленников возбуждено более 50 уголовных дел по фактам злоупотребления служебными полномочиями, превышения власти или служебных полномочий, взяточничества.

*«Злоумышленники проводили закупки технологического оборудования по завышенной стоимости с нарушением действующего законодательства, что привело к нерациональному расходованию как бюджетных, так и собственных средств коммунальных предприятий, в связи с чем был причинен значительный ущерб государству»,* – сообщает МВД.

Под уголовное преследование попали уже бывшие руководители более чем 20 организаций и предприятий, оказывающих услуги в сфере ЖКХ, со всей страны. Подозреваемые за незаконные вознаграждения принимали решения о закупках оборудования у фирм-посредников по завышенной от 3 до 10 раз стоимости. Видимость законности сделок придавала их регистрация аффилированными компаниями, предлагавшими купить такое же оборудование, но еще дороже.

*– Однако такая предприимчивость не позволила ввести в заблуждение оперативников БЭП. По отдельным предприятиям в настоящее время проводятся доследственные проверки, по результатам которых будет принято решение согласно уголовно-процессуальному законодательству,* – сообщила старший оперуполномоченный по особо важным делам ГУБЭП КМ МВД **Вероника Посметьева.**

По ее словам, с начала года в сфере ЖКХ учтено в 5,5 раза больше преступлений, чем за аналогичный период прошлого года. Из всех злодеяний 88,2% относятся к категории тяжких и особо тяжких. Чаще всего выявляются факты хищений путем злоупотребления служебными полномочиями (ст.210 УК), взяточничества (ст.430 УК), злоупотреблений служебными полномочиями (ст.424 УК), превышения власти или служебных полномочий (ст.426 УК), служебные подлоги (ст.427 УК).

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Узлёт Арыны Сабаленка

*Беларуская тэнісістка можа святкаваць гістарычную падзею – яна атрымала сваю першую перамогу на турнірах Сусветнай тэніснай асацыяцыі.*

Арына перамагла на турніры ў індыйскім Мумбаі з прызавым фондам 115 тысяч долараў. Учора ў рэйтынгу ВТА спартсменка ўзляцела з 96-га месца на рэкорднае для сябе 75-е.



ДЫЯЛОГІ

# Міхась СКОБЛА – Сяргей НАВУМЧЫК



# «Дэпутаты Незалежнасці шмат у чым паўтарылі лёс заснавальнікаў БНР»

*Свой прыезд у Беларусь экс-дэпутат Вярхоўнага Савета і цяперашні аглядальнік Радыё Свабода Сяргей Навумчык не афішаваў. Без анонсаў ён правёў у Віцебску і прэзентацыю сваёй новай кнігі “Дзевяноста другі”, што выйшла ў серыі “Бібліятэка Свабоды XXI стагоддзя” (раней пабачылі свет “Дзевяноста першы”, “Дзевяноста трэці” і “Дзевяноста пяты”). Па дарозе з Віцебска ў Прагу “летапісец Адраджэння” ўсё ж пагадзіўся на інтэрв’ю для “Народнай Волі”.*

## «Дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання аддалі ўсе сілы, каб Беларусь стала незалежнай, а сёння дзяржава на іх забылася»

**– Сяргей, ты паспяховы журналіст, шмат гадоў не менш паспяхова займаўся палітыкай. Але твае кнігі пра станаўленне беларускай Незалежнасці – гэта далёка не журналістыка. Што прымусіла цябе ўзяцца за іх напісанне?**

– Калісьці Васіль Быкаў узяў з мяне абяцанне, што я напішу гісторыю апошняй хвалі нашага Адраджэння – гісторыю Беларускага Народнага Фронту. Дарэчы, Васіль Уладзіміравіч быў сябрам Сойму БНФ, хадзіў на многія нашы мітынгі, абавязкова – на Дзяды. Ад будынка КДБ ён разам з намі праходзіў увесь шлях, аж да Курапатаў. Для мяне і шмат для каго Быкаў – гэта прыклад служэння народу. Мне даводзілася сустракаць у друку папрокі: маўляў, лідары БНФ, уцягнуўшы Васіля Быкава ў палітыку, не далі яму шмат што напісаць. Так могуць гаварыць толькі людзі, якія зусім не ведалі Васіля Уладзіміравіча, якога немагчыма было кудысьці ўцягнуць паміма яго волі. Гэта быў чалавек надзвычай паслядоўны ў ажыццяўленні сваіх прынцыпаў. І калі ў 1988-м ён напісаў прадмову да знакамітага артыкула Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва пра Курапаты, калі ён вёў установучае пасяджэнне БНФ – ён тады зрабіў свой выбар. Гэта адзін момант. Другі момант – я проста перакананы, што калі б не заангажаванасць Быкава ў палітыку, то, скажам, “Прыпавесцяў” ягоных мы не атрымалі б. Нарэшце, успаміны пра тыя франтаўскія часы – адметныя старонкі ў ягонай мемуарнай кнізе “Доўгая дарога дадому”. Так што Быкаў узяў з мяне такое абяцанне, і я яго паступова выконваю. Ведаеш, да таго ж адчуваю маральны абавязак перад калегамі па Вярхоўным Савеце, якіх ужо з намі няма. Перад Ігарам Герменчуком, Ігарам Пырхам, Галінай Сямдзянавай, Барысам Гюнтарам. Яны памерлі заўчасна. У мяне такое адчуванне, што дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання шмат у чым паўтарылі лёс заснавальнікаў БНР. У 1990-я гады яны аддалі ўсе сілы, каб Беларусь стала незалежнай. А сёння дзяржава на іх забылася. У той жа час іх калегі, напрыклад, у Літве адпаведна ўшанаваны. Гаворка тут не пра нейкія матэрыяльныя даброты, самае страшнае – гэта забыццё. На маю думку, такая сітуацыя будзе доўжыцца яшчэ гадоў 40–50. Але пазней “дэпутаты Незалежнасці” абавязкова трапяць у падручнікі па гісторыі. А многіх, хто сёння раз’язджае на “Мерседэсах” з мігалкамі, проста не ўзгадаюць.

**– Быкава няма з намі ўжо 14 гадоў, а першая кніга – “Дзевяноста першы” – выйшла толькі ў 2013-м …**

– Яна была першай у “свабодаўскай” серыі, але перад гэтым, у 2006-м, была яшчэ кніга “Сем гадоў Адраджэння (1988–1995)”. Проста аднойчы мне напісаў ліст старшакласнік з Горак, які, паслухаўшы Радыё Свабода, звярнуўся да мяне з просьбай аб дапамозе: “Калі я ў класе сказаў, што бел-чырвона-белы сцяг і “Пагоня” былі дзяржаўнымі сімваламі, мяне падняլі на смех. Ніхто мне ў класе не паверыў. Як мне ім даказаць, што я не хлушу?” Я жахнуўся – усяго некалькі гадоў спатрэбілася, каб выціснуць з новага пакалення памяць аб мінулым. І я зразумеў, што мушу нарэшце напісаць пра ўсё, што ведаю. Будучы каардынатарам апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, я вёў пратаколы, запісы.

## «Найлепшыя мемуарныя кнігі напісаны па памяці»

**– У тваіх кнігах безліч спасылак і цытат. Такое адчуванне, што ў тваім распараджэнні не толькі запісы, але і архівы Вярхоўнага Савета і БНФ. А насамрэч – якімі крыніцамі табе даводзілася карыстацца?**

– Я ні ў якім разе не параўноўваю сябе з Быкавым ці Ларысай Геніюш, але нагадаю, што іхнія мемуарныя кнігі – “Доўгая дарога дадому” і “Споведзь” – напісаны фактычна па памяці. Тым яны і каштоўныя. Мы не шукаем нейкай храналогіі ні ў Быкава, ні ў Геніюш, нам цікава, як яны да чагосьці ставіліся. У мяне больш сціплыя мэты. Мне хацелася аднавіць якраз храналогію, адчуванне таго часу. У мяне назбіраўся вялікі архіў, у свой час у некалькі прыёмаў сябры перавезлі яго ў Прагу, што значна паскорыла працу. І тут ёсць адзін цікавы момант. Некаторыя мемуары нашых дзеячаў таго часу напісаны з улікам дня сённяшняга. Скажам, у 1991–1994 гадах Вячаслаў Кебіч не быў прыхільнікам Лукашэнкі. А што ён піша ў сваёй кнізе “Искушение властью”? І тут справа не ў амбіцыях, а ў расстаноўцы ўсіх кропак над “і”. Напрыклад, калі ў 1991 годзе Павел Якубовіч падчас путчу выступіў у “Народнай газеце” з артыкулам “Знают истину танки?”, то я ў сваёй кнізе гэта не замоўчваю. Або, калі Віктар Ганчар у 1994 годзе паставіў свае асабістыя амбіцыі паперадзе нацыянальных, дамагаючыся ўвядзення прэзідэнцтва, я таксама пра гэта пішу. Хоць, безумоўна, аддаю належнае Ганчару, разумею, хто і за што з ім расправіўся. Псіхалагічна вельмі цяжка вярнуцца ў той час... Але гэта не мусіць заўважаць чытач. Самая вялікая пахвала маім кнігам – калі кажуць, што яны чытаюцца лёгка.

**– Ці не перашкаджала табе пісаць тое, што ты сам быў удзельнікам многіх падзей? І як ты ў такіх выпадках пазбягаў суб’ектыўнасці?**

– Наадварот, мне гэта дапамагала, бо я памятаю тое, што не зафіксавана ў стэнаграмах сесій Вярхоўнага Савета. А прыкладна дзве трэці падзей адбываліся не ў Авальнай зале, а ў кулуарах, на пасяджэннях камісій, на сходах апазіцыі, на прыватных перамовах. Я ўсё гэта памятаю, шкада толькі, што не вёў тады сістэматычна дзённіка. Ведаеш, калі б мне сёння сказалі: аддаеш тры пальцы на левай руцэ, і атрымаецца так, што ў 1990–1996 гадах ты вёў дзённік кожны дзень, – я пагадзіўся б. Бо чалавечая памяць часам усё ж дае збоі. Ну вось такі ў нечым паказальны прыклад. Аднойчы мне трэба было датаваць нейкае пасяджэнне, зафіксаванае на фотаздымку, дзе наступным кадрам – вяселле майго калегі дэпутата Лявона Зданевіча. Я яму патэлефанаваў: калі ты жаніўся? Ён мне с ходу адказвае: у 1992-м. Я кажу: а можа, у 1993-м? “Як я магу забыцца, калі было маё вяселле?!” Я параіў Лявону пашукаць пасведчанне аб шлюбе. Аказалася – я меў рацыю...

Мае кнігі – не падручнікі па гісторыі, яны сапраўды суб’ектыўныя. Але ёсць і факты, якія застаюцца фактамі, хаця пра іх і забыліся. Скажам, ці памятаем мы, што ў ліпені 1992 года Беларусь была вінавата Расіі 40 мільярдаў рублёў, а Расія Беларусі – 120 мільярдаў? А так было. І гэта разбівае міф аб тым, што Беларусь без Расіі не пражыве. Пражыве. Сярод уладальнікаў буйных гандлёвых цэнтраў у Мінску я сустракаю знаёмыя прозвішчы – гэта дзеці ці ўнукі былых віцэ-прэм’ераў і міністраў, якія ў свой час крычалі, што “без Расіі Беларусь не пражыве!”. І якраз яны, іх дзеці і ўнукі скарысталіся з Незалежнасці і жывуць значна лепш, чым мы ўсе.

**– Нядаўна госцем “Народнай Волі” быў славуты ўкраінскі паэт Дзмітро Паўлычка, які сказаў, што пахаваны ў Белавежскай пушчы Савецкі Саюз уваскрос і па-ранейшаму выяўляе свае імперскія амбіцыі. Ці правамерна такая ацэнка?**

– Абсалютна правамерна. Днямі ў інтэрнэце я пабачыў выступленне тагачаснага прэзідэнта Эстоніі Мэры, які яшчэ ў 1994 годзе папярэджваў аб расійскай экспансіі. Пра тое ж самае пісаў у сваім знакамітым артыкуле “О русском империализме и его опасности” Зянон Пазьняк, але тады яму многія, у тым ліку дэмакраты, не надалі значэння. А цяпер усё гэта спраўджваецца на нашых вачах. Імперыя сапраўды нікуды не знікла, а стала яшчэ больш небяспечнай. Я не прыхільнік Брэжнева ці Хрушчова, але яны не ўчынялі анексій пры вядомых падзеях у Будапешце (1956), у Празе (1968), у Афганістане (1979). Так, гэта былі ганебныя, злачынныя акцыі, але ні Афганістан, ні Венгрыя, ні Чэхаславакія не далучаліся да СССР. Упершыню пасля 1945 года ў Еўропе Расія (член Савета Бяспекі ААН!) анексавала частку другой краіны. Украіна першай прыняла на сябе збройны ўдар імперыі, але Беларусь таксама знаходзіцца пад пагрозай. Калі я ўчора ў бібліятэцы гартаў старыя газеты – я цяпер пішу пра 1993 год, – то проста фізічна адчуваў, як расійскія шавіністычныя сілы насоўваліся на нашу зямлю. Уявіце сабе: на пачатку 1990-х у Віцебску было ўсяго некалькі прадстаўнікоў “Славянскага сабора”, абсалютна маргінальнай шавіністычнай арганізацыі, якой, праўда, мясцовыя дзяржаўныя газеты аддавалі цэлыя палосы. І сёння іх галоўная ідэя – ідэя “русского мира” – у Беларусі рэалізоўваецца. Усе гаворкі пра мяккую беларусізацыю не варта ўспрымаць усур’ёз, я не бачу, каб гэта ішло ад улады. Праўда, зрэдку ініцыятыву праяўляе Міністэрства замежных спраў. І мне няважна, чым кіруецца Уладзімір Макей у гэтай сітуацыі – ці асабістымі інтарэсамі, ці грамадскімі, ці чымсьці іншым. Калі МЗС ладзіць выставу, прысвечаную Быкаву, калі запрашае амбасадараў чытаць вершы Купалы – гэта добра. На жаль, Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі гэтага не робяць. Але ў прынцыпе беларускія ідэі ўвесь час генерыруе грамадства. Проста сёння ўлады пачалі тыя ідэі менш прыдушваць.

## «Для вяртання Пазьняка павінны ўзнікнуць адпаведныя ўмовы»

**– 21 год прайшоў з таго часу, калі ты разам з Зянонам Пазьняком пакінуў Беларусь. Наколькі гэта было неабходным менавіта для цябе?**

– Лічу, што абсалютна неабходным. Згадайма: увесну 1996-га праходзілі мітынгі супраць аб’яднання Беларусі і Расіі, якія мне давялося весці. І па БТ гучалі заявы пракурора, што на Навумчыка заведзена крымінальная справа. А калі мы з Пазьняком выехалі ў Кіеў, за намі прыйшоў так званы “гончы ліст” з патрабаваннем нас выдаць. І генпракурор Украіны сказаў, што яны не выдаюць палітычных дзеячаў. Потым я прачытаў у некаторых дэмакратычных газетах: маўляў, з Пазьняком усё ясна, але чаму з’ехаў Навумчык, хто ён такі? Ведаеш, ну гэта проста смешна, я ўсё ж быў дэпутатам Вярхоўнага Савета і не апошняй асобай у апазіцыі. І яшчэ адзін момант. У кнізе “Быкаў на Свабодзе” ёсць інтэрв’ю Васіля Уладзіміравіча за 1996 год, дзе ён каментуе заяву тагачаснага кіраўніка камітэта па бяспецы Дзяржаўнай Думы Расіі, што нібыта ЦРУ збіраецца забіць двух лідараў БНФ у Варшаве, а спісаць гэта на Лукашэнку. Пра гэта чамусьці шмат хто і тады забываўся, і цяпер не ўспамінае. Рашэнне з’ехаць у 1996-м было адназначна правільным, як і рашэнне прыехаць у 2017-м.

**– Многія эмігранты чым толькі не займаюцца спачатку. А што табе даводзілася рабіць, каб выжыць?**

– Дзякуй Богу, піцу мне развозіць не давялося, хоць большасць нашых эмігрантаў у ЗША пачынаюць якраз з падобнага. Там сапраўды грошы не растуць на дрэвах. Спачатку на Радыё Свабода мела працу мая жонка, гэта дапамагло выжыць, а потым мы з ёю як бы замяніліся. І вось ужо 18 гадоў – з 1999-га – я працую на тым самым радыё.

**– З’ехалі вы разам з Пазьняком, а ты вось ўжо не першы раз прыязджаеш у Беларусь... Зянон Станіслававіч на радзіму не збіраецца?**

– Пазьняк гэта Пазьняк, і я сябе з ім не параўноўваю. Хто можа гарантаваць, што з ім нічога не здарыцца пасля прыезду? Калі б Зянон Станіслававіч са мной заўтра параіўся, ці вяртацца яму ў Беларусь, я, хутчэй за ўсё, параіў бы яму не ехаць. Рызыка, безумоўна, ёсць, бо ўлада засталася тая ж. Але ёсць і яшчэ адзін аспект. Я лічу, што для вяртання Пазьняка павінны ўзнікнуць і адпаведныя ўмовы. Ён – тая сіла, якая можа быць кінута ў крытычны момант на шалі лёсу Беларусі. Вось уявіце сабе: Пазьняк прыехаў. Месяц, два нічога не здараецца, а потым чалавек проста паслізнуўся ці яшчэ што… Узнікае пытанне: вы што, хочаце проста правесці эксперымент – здарыцца з ім штосьці ці не? Так нельга. Ёсць і іншыя аспекты. Думаю, Пазьняк на мяне не пакрыўдзіцца, калі я гэта раскажу. Гадоў сем таму ён збіраўся ехаць ва Украіну, але людзі, якім мы давяраем, параілі яму не рабіць гэтага. Было сказана, што на ўкраінскай тэрыторыі дзейнічаюць расійскія спецслужбы. Тры гады таму, падчас Майдана, і пазней мы ў гэтым неаднойчы пераконваліся. Чаму мы думаем, што гэта ў 1930-я гады дзеячаў БНР, якія вярнуліся на радзіму, расстралялі, а цяпер усё змянілася? Я ў 1992 годзе быў абсалютна перакананы, што ў Беларусі ніколі ўжо не будзе ніякай дыктатуры, будзе толькі лепш. На жаль… І таму я ўпэўнены, што Пазьняку пакуль вяртацца нельга. Сваю справу ў гісторыі Зянон Станіслававіч ужо зрабіў. Ён быў першым з палітыкаў, які ўпэўнена гаварыў, што Беларусь павінна быць незалежнай. Ён і сёння не сядзіць склаўшы рукі. Вось мы гаворым пра мае кнігі, а Пазьняк выдаў іх 20. У мяне з ім была размова, і я вельмі спадзяюся, што ён сядзе і напіша кнігу ўспамінаў. Як Быкаў – “Доўгую дарогу дадому”.

## «За 23 гады Лукашэнка ні разу не пабываў у Курапатах, і гэта шмат пра што гаворыць»

**– Апошнім часам дзіўныя рэчы адбываюцца вакол Курапатаў. БТ і “Беларусь сегодня” заклікаюць збіраць сродкі на мемарыял, БРСМ ладзіць там свае суботнікі. Як ты да гэтага ўсяго ставішся?**

– У Курапатах ужо створаны народны мемарыял – гэта крыжы, усталяваныя Кансерватыўна-Хрысціянскай партыяй – БНФ. Што да ўлады, то я не бачу тут шчырасці з яе боку. Тут для мяне поўная паралель з беларускай мовай. Сітуацыю з мовай можна змяніць за адну гадзіну. Калі б кіраўнік Беларусі правёў селектарную нараду па-беларуску, я даю галаву на адсячэнне, што стаўленне чыноўнікаў да мовы змянілася б імгненна і кардынальна. Толькі ён гэтага ніколі не зробіць. Дык вось, калі б Лукашэнка прыехаў у Курапаты і ўсклаў вянок, я паверыў бы, што ва ўлады адносіны да гэтага месца змяніліся. Але за 23 гады кіравання краінай ён у Курапатах не пабываў ні разу, і гэта шмат пра што гаворыць. Гэта пэўны знак, які даецца чынавенству. Улада ў Беларусі не беларуская па духу. Спачатку было жаданне аб’яднаць Беларусь з Расіяй. Потым гэтыя магчымасці зніклі, але адмоўнае стаўленне да ўсяго беларускага засталося. Скажам, да гэтай пары не рэабілітавана Ларыса Геніюш – сапраўдная гераіня Беларусі №1. Яна не рэабілітавана, і на гэтым можна ставіць кропку.

**– Ідзе 24-ы год кіравання Лукашэнкі. Якія ягоныя рашэнні ты хацеў бы адзначыць – са знакамі мінус і плюс?**

– Самы вялікі мінус – рэферэндум 1995 года, пасля якога былі адменены бел-чырвона-белы сцяг і герб “Пагоня”, а расійская мова стала дзяржаўнай. Беларускай дзяржаве быў нанесены страшны ўдар. Я сказаў бы так: нацыі пераламалі хрыбет. Чалавек можа жыць з перабітым пазваночнікам, але будзе ўжо мала на што здольны.

Што да ўчынкаў са знакам плюс, то тут мне цяжка нешта прыгадаць. Мне вельмі хацелася б, каб Лукашэнка проста ў імя сваіх унукаў і праўнукаў зразумеў, што самае галоўнае ў жыцці чалавека – сям’я і Радзіма. Нашчадкі ў яго ёсць, і няхай у іх будзе ўсё добра, я не жадаю ім зла. Абсалютна перакананы, што нашчадкі не павінны расплачвацца за памылкі бацькоў. А каб адчуць Радзіму, няхай возьме і прачытае Купалу і таго ж Быкава.

## «Маёй машыне 19 гадоў, яна часта псуецца, але мяне гэта не асабліва цікавіць»

**– Нягледзячы на сабраныя 100.000 подпісаў за наданне вуліцы ў Мінску імя Быкава, улада не пайшла насустрач грамадскасці. Адкуль такое ўпартае нежаданне ўшанаваць памяць сусветна вядомага пісьменніка?**

– Думаю, што гэта ідзе ад майго былога калегі па Вярхоўным Савеце Аляксандра Лукашэнкі. Быкаў у 1994 годзе падтрымаў не яго, а Пазьняка, які потым з’ехаў з Беларусі і вельмі жорстка ацэньваў крокі Лукашэнкі па інтэграцыі з Расіяй. Да таго ж Быкаў з’яўляўся духоўным лідарам нацыянальнага адраджэння. Таму Быкаву і няма даравання ад улады. Думаю, што калі б у канцы 1990-х Быкаў сустрэўся з Лукашэнкам і штосьці папрасіў, то атрымаў бы ўсё, што іншым і не снілася. Але ён гэтага зрабіць не мог, бо быў прынцыповым чалавекам. Што да вуліцаў і плошчаў, то тут пытанне шырэйшае. Для будучай дэмакратычнай улады ёсць вельмі добры катэхізіс, падручнік па тапаніміцы – кніга Уладзіміра Арлова “Імёны Свабоды”. Адкрывай – і пайшоў па спісе. Там усе нашы героі, вартыя ўшанавання на дзяржаўным узроўні.

**– Пасля вечарыны памяці Генадзя Бураўкіна ў Віцебску твой бацька Іосіф Адамавіч запрасіў нас на гарбату і з гонарам паказаў сямейную, сапраўды багатую, бібліятэку. Табе яе за мяжой не хапала?**

– Так, не хапала. Я вырас у сям’і кніжнікаў. Мой бацька ў савецкі час займаў высокую пасаду, але пральная машына ў нашай кватэры з’явілася толькі ў 1985 годзе – на сёмым годзе яго сакратарства ў абкаме, да гэтага маці ўсё мыла рукамі. Усе грошы ішлі на кнігі. У нас дома сапраўды вялікая бібліятэка. Калі я апынуўся ў эміграцыі, мне яе вельмі не хапала. Потым з гадамі, паступова, я зноў абзавёўся кнігазборам. Маёй машыне 19 гадоў, яна часта псуецца, але мяне гэта не асабліва цікавіць. А кнігі – цікавяць. І я веру, што друкаваная кніга будзе жыць. У мяне даволі шырокае кола літаратурных прыхільнасцяў, для кагосьці, можа, нешта падасца нават дзіўнаватым – напрыклад, калі хварэю, перачытваю “Рабінзона Круза” Дэфо. Час ад часу перачытваю “Белую гвардыю” і “Майстра і Маргарыту” Булгакава, з жонкай якога мне пашчасціла сябраваць. Перачытваю “Знак бяды” і “Доўгую дарогу дадому” Быкава, “Дзікае паляванне караля Стаха” Караткевіча, “Мой радавод да пятага калена” Арлова. Люблю перачытваць тваю ўнікальную анталогію “Краса і сіла”. Нярэдка бяру ў рукі “Войну и мир” Талстога і “Другую сусветную вайну” Чэрчыля – проста эталон мемуарыстыкі. Я люблю перачытваць вершы Барадуліна і Бураўкіна – вялікіх беларускіх паэтаў. Імёны я мог бы пералічваць і далей, але кнігі названых аўтараў я магу з асалодай і эстэтычным узрушэннем перачытваць у любы момант з любой старонкі.

Мікола Купава, Сяргей Навумчык, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, Сяргей Папкоў перад мітынгам у сталічным парку імя Янкі Купалы. Жнівень 1994 года.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Аляксандр ПАЛІЕНКА: «У калоніі Зміцер абслугоўвае станкі»

*Бацька сацыяльнага актывіста распавёў пра сустрэчу з сынам.*

Нагодай для крымінальнага пераследу **Зміцера Паліенкі** стаў ягоны ўдзел у мірным сходзе “Крытычная маса”, які адбыўся 29 красавіка 2016 г. у Мінску.

12 кастрычніка 2016 года судом Цэнтральнага раёна г.Мінска Паліенка быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага артыкулам 364 Крымінальнага кодэкса (гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў) і часткай 2 артыкула 343 КК (выраб і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару). Малады чалавек быў прыгавораны да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады.

Але 7 красавіка 2017 года суд Заводскага раёна г.Мінска разглядзеў прадстаўленне органа, які ажыццяўляў кантроль за паводзінамі асуджанага, і адмяніў адтэрміноўку выканання пакарання. Зміцера Паліенку накіравалі ў папраўчую калонію на 1,5 года.

*“Апошні раз сустракаўся з сынам каля паўгода таму,* – распавёў **Аляксандр Мікалаевіч Паліенка** – бацька сацыяльнага актывіста. – *Зараз даведаўся, што перыядычна Зміцер трапляе ў штрафны ізалятар. Гэта галоўная праблема для яго. А ва ўсім астатнім быццам бы ўсё нармальна”.*

Са слоў нашага суразмоўцы, *“у калоніі сын працуе – абслугоўвае станкі”.*

*“Праўда, заробкі там, безумоўна, зусім малыя,* – дадае ён. – *Зміцер кажа, што за месячны заробак можна купіць толькі 4–5 пачак цыгарэт”.*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

НУ І НУ!

## Ехаў у Літву, апынуўся ў беларускім ізалятары

*Грамадзянін Малдовы прапаноўваў хабар беларускаму інспектару, цяпер яму пагражае турма.*

26-гадовы малдаванін транзітам перасякаў Беларусь. На аўтадарозе каля Гомеля яго спыніў супрацоўнік ДАІ. У замежніка не аказалася страхоўкі, а гэта парушэнне, за якое па беларускіх законах устаноўлены штраф у памеры 20 базавых велічынь.

– *Каб пазбегнуць адказнасці і не афармляць парушэнне дакументальна, іншаземец прапанаваў інспектару 20 долараў ЗША. Таксама мужчына абяцаў крыху пазней аддзячыць міліцыянту каньяком,* – распавяла старшы інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама **Ганна Кавалёва.**

Інспектар ад хабару адмовіўся, папярэдзіў вадзіцеля аб супрацьзаконнасці яго дзеянняў, тым не менш той паклаў грошы каля каробкі пераключэння перадач.

Злачынства было задакументавана следча-аператыўнай групай, і падазроны быў змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. У дачыненні да яго ўзбуджана крымінальная справа па ч.1 арт.431 КК Беларусі («Дача хабару»), санкцыя якой прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 5 гадоў.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Кто и зачем «забирал» Мирский замок в столицу

Вот негромкая вроде бы дата: 25 лет назад в Мирском замке открылась первая музейная экспозиция для туристов. Вокруг замка еще стояла жухлая трава, парк был запущен, часовня-усыпальница заколочена, да и сама средневековая крепость выглядела романтической развалиной. Было безлюдно и холодно – как и положено поздней осенью в Беларуси. Даже в фантазиях мы не могли себе представить, что средневековый памятник архитектуры когда-нибудь восстановят полностью. Помню, один белорусский писатель, только что женившийся на москвичке, привез ее в Мир, мы вместе поднялись на развалины, он развел руками и пафосно спросил у своей любимой: «Ты чувствуешь, какая история за нами? Какая это была страна – Великое Княжество Литовское?» «Нет», – покачала головой молодая женщина. И, почти извиняясь, еще раз сказала: «Нет…».

Она не хотела никого из нас обидеть. Но запущенность, видимо, резала ей глаза, а нам, конечно, она резала сердца. Не только ее, наша фантазия тогда тоже буксовала. Даже Ольга Ипатова, общественный деятель, писатель, говорила в те годы: «Мир, наверное, восстановят только через 100 лет...».

Мирский замок был объявлен памятником истории и культуры, охраняемым государством, еще в 1947 году. А в 1955-м о нем даже была написана первая кандидатская диссертация. Архитектор Анатолий Яковлевич Митянин исследовал руины, хотя сам из-за инвалидности лазить по кирпичам высоко не мог и звал обмерять стены местных мальчишек. Они помогали, не отказывались! Так шла первая музеефикация древнего исторического объекта – на энтузиазме. 40 лет замок оставался всего лишь районной достопримечательностью: он стоял на земле Кореличского района и принадлежал Кореличскому райисполкому. А какое там финансирование?

Но пришло время, и в Мире появился Юрий Александрович Карачун. Директор Художественного музея единоличным решением взял эти дорогие развалины на баланс своего учреждения: он проявил волю, «забрал» замок в столицу. Юрий Александрович спасал объект от разрушения. Хотя многие его коллеги в музее, как признаются старожилы, посчитали этот порыв руководителя, мягко говоря, неосмотрительным: это ж сколько забот прибавилось с таким филиалом, как Мир! И ответственности. Но именно энергия директора Карачуна сдвинула дело с мертвой точки, и имя его должно быть записано в истории восстановления Мирского замка красными буквами.

Интересно, что государственный исторический музей, которому бы по логике стоило за такой объект, как Мирский замок, драться на всех министерских коллегиях, остался в той ситуации в равнодушной стороне. Вот не было у него руководителя-гражданина, личности! А в Национальном художественном такие люди были всегда: Елена Васильевна Аладова, Юрий Александрович Карачун, сейчас – Владимир Иванович Прокопцов. Надо называть имена своих героев! Именно поэтому наш художественный – вопреки министерской табели о рангах – музей страны номер один. В общественном сознании так уж точно.

Первыми были отреставрированы в замке две башни – Центральная и Юго-Западная. В Юго-Западной на шести ярусах и разместили экспозиции – достаточно скромные, как вспоминают сами музейщики. Это был 1992 год. Помните, что за время? Молодая независимая Беларусь есть, а денег в стране нет. Полный упадок экономики, но какой взлет патриотизма! О первой экспозиции в Мирском замке написали все газеты, потому что это был знак, символ. Я тоже приезжала за репортажем. Башня стояла непокелблемо. Грела душу, будоражила мысли. Волновала. Но вокруг не было ни-че-го. Поселок – в глубокой перестроечной дремоте. У ворот замка какие-то частники продавали чудовищные куклы Бабы Яги и кривые свистульки, а в местном магазине «Хозтовары» – почему-то остро запомнилось – кроме алюминиевых вилок и ложек, другого товара на прилавке и не лежало. И я купила эти алюминиевые приборы! Они мне были совершенно не нужны. Но фоном нашей тогдашней жизни был один мотив: запасайся впрок всем, чем можешь. Как перед войной.

Незаметно прошло 25 лет. Сложные годы. Серьезные годы! Сменилось восемь министров культуры. Страна отреставрировала Мирский замок, взявшись наконец вплотную за проект в 2007 году. Национальный художественный музей проработал и создал ныне действующую в его стенах музейную концепцию. И средневековый чертог стал излюбленным объектом у туристов: с 2010 года, с момента его открытия после реставрации, замок посетило почти три миллиона человек. Мир теперь действительно презентабельный, оригинальный. Изумительный! И, в отличие от Несвижского замка, который, в принципе, имеет аналоги в европейской архитектурной истории, Мир не похож ни на что.

Но, как говорят музейщики, чтобы сохранить прошлое, надо уметь смотреть в далекое будущее. Пик посещаемости, в принципе, у объекта пройден, поток туристов может вскоре пойти на спад. Не сильный, но все-таки. Как поддержать к замку все такой же повышенный интерес, а то и еще больший? Неожиданное предложение прозвучало от председателя Белорусской ассоциации гольфа Владимира Дражина: построить около поселка Мир поля для гольфа. Аристократический, дорогой и очень популярный вид спорта притянет к нему новую международную публику: будет чаще заселяться фешенебельная гостиница, будет наконец нужда в конференц-зале, который сейчас чаще всего пустует в северном крыле резиденции. И большой ресторан опять-таки под боком, в цоколе замка. Кореличский райисполком отнесся к предложению с большой заинтересованностью. Вот пусть бы звезды сошлись и на этом проекте. Как говорится, Миру – мир.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## На шчыце…

*У мінулую нядзелю баскетбольны матч паміж зборнымі Беларусі і Чарнагорыі ў мінскім Палацы спорту пачаўся на паўтары гадзіны пазней.*

Гульня кваліфікацыйнага турніру да чэмпіянату свету-2019 павінна была пачацца ў 19.30, але ў прызначаны час каманды на пляцоўку не выйшлі.

Справа ў тым, што на размінцы чарнагорцы зламалі стойку для баскетбольнага шчыта, а запасной у Палацы спорту чамусьці не аказалася. У выніку новую стойку давялося везці аж з "Мінск-Арэны", а матч затрымаўся на працяглы час і пачаўся толькі ў 21.00.

Дарэчы, у гульні беларусы аказаліся таксама "на шчыце" – зборная Чарнагорыі разграміла гаспадароў з лікам 91:76.

**Віктар ШПАК.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## «Мы ні ў якім разе не збіраемся ганьбіць нашу армію»

*У Мінску будзе абвешчана пра стварэнне грамадскага аб'яднання "Камітэт салдацкіх маці".*

Пра гэта "Народнай Волі" распавяла праваабаронца **Наталля Гарачка**, якая выступіла ініцыятарам стварэння новай арганізацыі.

– Я асабіста была ў Генштабе Мінабароны яшчэ 1 лістапада – распавядае праваабаронца. – Сустракалася са службовымі асобамі, выклала і абгрунтавала пазіцыю: Беларусі патрэбна грамадская арганізацыя, якая займалася б маніторынгам спраў у беларускім войску. Здаецца, я сустрэла паразуменне ў Міністэрстве абароны – і з боку супрацоўнікаў ідэалагічнага аддзела і з боку іншых адказных асоб у пагонах.

Падкрэслю, мы ні ў якім разе не збіраемся ганьбіць нашу армію. Разам з Міністэрствам абароны мы хочам палепшыць умовы службы, зрабіць так, каб маці спакойна адпускалі туды сваіх сыноў, а не ўспрымалі прызыў як трагедыю. Наша задача – палепшыць імідж беларускага войска.

Таксама мы гатовы ездзіць па вайсковых часцях. Але толькі з адной умовай: пра візіты прадстаўнікоў нашага камітэта не павінны загадзя папярэджваць на месцах.

Нам не патрэбны палігоны і інфармацыя пра наяўнасць сакрэтнай тэхнікі ў той ці іншай часці, нам патрэбны допуск у казармы і кухні, каб на ўласныя вочы пабачыць, у якіх умовах служаць нашы хлопцы. Важна, каб паважаліся правы шараговых вайскоўцаў. На сённяшні дзень гэта закрытая для грамадства зона.

У склад аргкамітэта акрамя Наталлі Гарачка ўвайшлі кіраўніца цэнтра грамадзянскіх ініцыятыў, зарэгістраванага ў Чэхіі Вольга Карач, грамадская актывістка Людміла Кучура і іншыя.

Зараз чакаем афіцыйнай рэакцыі з боку Мінабароны краіны. Але ў любым выпадку "Камітэт салдацкіх маці" будзе спрабаваць атрымаць рэспубліканскую рэгістрацыю.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ФУТБОЛ

# БАТЭ стаў чэмпіёнам дванаццаты раз запар

*Прайшоў апошні тур чэмпіянату краіны па футболе.*



У чатырнаццаты раз чэмпіёнства святкуе барысаўскі БАТЭ, серабро – у мінскага "Дынама", бронза – у салігорскага "Шахцёра". Пакінуць вышэйшую лігу мазырская "Славія" і наваполацкі "Нафтан".

Вось вынікі 30-га тура: "Крумкачы" – "Мінск" – 2:1, "Гомель" – "Дынама" (Брэст) – 0:1, "Гарадзея" – БАТЭ – 3:3, "Нёман" (Гродна) – "Шахцёр" (Салігорск) – 3:1 "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Славія" (Мазыр) – 2:0, "Нафтан" (Наваполацк) – "Іслач" (Мінскі раён) – 1:2, "Днепр" (Магілёў) – "Слуцк" – 0:0, "Віцебск" – "Дынама" (Мінск) – 1:4.

### Выніковае турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічы | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 30 | 21 | 5 | 4 | 61–19 | 68 |
| Дынама (Мн) | 30 | 22 | 2 | 6 | 46–15 | 68 |
| Шахцёр | 30 | 20 | 5 | 5 | 52–22 | 65 |
| Дынама (Бр) | 30 | 14 | 9 | 7 | 47–26 | 51 |
| Тарпеда-БелАЗ | 30 | 14 | 9 | 7 | 43–27 | 51 |
| Нёман | 30 | 14 | 7 | 9 | 42–32 | 49 |
| Слуцк | 30 | 12 | 8 | 10 | 30–34 | 44 |
| Віцебск | 30 | 12 | 7 | 11 | 35–38 | 43 |
| Гарадзея | 30 | 8 | 14 | 8 | 37–35 | 38 |
| Гомель | 30 | 9 | 8 | 13 | 24–25 | 35 |
| Іслач | 30 | 10 | 4 | 16 | 27–46 | 27 |
| Днепр | 30 | 6 | 8 | 16 | 27–48 | 26 |
| Крумкачы | 30 | 5 | 10 | 15 | 26–47 | 25 |
| Мінск | 30 | 3 | 14 | 13 | 19–39 | 23 |
| Славія | 30 | 4 | 8 | 18 | 26–50 | 20 |
| Нафтан | 30 | 4 | 6 | 20 | 18–57 | 13 |

ГАСЦЁЎНЯ "НАРОДНАЙ ВОЛІ"

# В О Л А Т

*Беларускі спартсмен, алімпійскі чэмпіён Валерый Шарый – чалавек унікальны. Хаця б таму, што з'яўляецца аўтарам сусветнага рэкорду ў трохбор'і, які ніколі не будзе пабіты.*

*Да таго ж і на восьмым дзясятку Валерый Пятровіч застаецца ў абойме – ён дагэтуль трэніруе маладых спартсменаў ва ўласнай школе. Не выключана, што сярод цяперашніх выхаванцаў Шарыя ёсць будучыя алімпійскія чэмпіёны…*

*Аб тым, як адломкі вагаметкі паспрыялі развіццю савецкага спорту, колькі "важыла" "Волга" і як стаць вечным чэмпіёнам, **Валерый Шарый** распавёў "Народнай Волі".*



– Нарадзіўся я ў Чэрвені праз два гады пасля заканчэння вайны. Дзяцінства маё было няпростым, – успамінае Валерый Пятровіч. – Калі мне споўнілася шэсць гадоў, бацька кінуў сям'ю – паехаў у Сібір "золата мыць". Потым ён яшчэ двойчы жаніўся, у кожный сям'і ў яго нарадзілася па сыну – і ўсе, як і я, Валеры. Пасля расставання з бацькам мама паехала ў Мінск на курсы бухгалтараў і пасля іх заканчэння засталася там працаваць на чыгунцы па спецыяльнасці, а я ўсё сваё дзяцінства правёў у Чэрвені, побач з бабуляй і дзядулем. Яны мяне і гадавалі.

Жылі яны па пасляваенных мерках нармальна – сваю гаспадарку мелі, у нас карова была. Я з дзяцінства прывык да цяжкай сельскай працы – у полі, на агародзе. Палоў бульбу, зграбаў сена… Усяму навучыўся, і гэта мне ў жыцці, дарэчы, не раз дапамагала.

Там жа, у Чэрвені, я пайшоў у школу. Любіў гісторыю з геаграфіяй, літаратуру і фізкультуру. Фізічна я быў развіты добра – сельскі ж хлапчук. Скакаў у даўжыню на пяць метраў, 60 метраў бегаў за дзевяць секунд… Вельмі футбол любіў. Дарэчы, адышоў ад футбольных баталій толькі гадоў сем таму, а так выступаў "па ветэранах"…

А ў школе не скажу, што вучыўся на выдатна, – не давалісся мне дакладныя навукі. Я і дагэтуль не асабліва разумею, навошта большасці з нас у школе пра сінусы-косінусы распавядаюць (*усміхаецца*). Не ўсім гэта ў жыцці спатрэбіцца.

**– Штангай займацца вы сталі яшчэ ў Чэрвені?**

– Скажам так: тады я пачаў ёю цікавіцца. Аднойчы, помню, у кіно пайшоў, а там перад сеансам кароткія навіны заўжды паказвалі – пра збор ураджаю, напрыклад. Маўляў, краіна ўздымаецца з руін, будзем з хлебам, і ўвогуле СССР – самая лепшая дзяржава на планеце. І раптам у канцы, перад самым сеансам паказваюць навіны спорту: на экране мажны мужчына – двухразовы алімпійскі чэмпіён Аркадзь Вараб'ёў – уздымае такую цяжкую, але такую бліскучую і прыгожую штангу… І ўсё, мяне нібы токам ударыла: хачу, як ён! І пачалося…

**– Першая штанга ў вашым жыцці была самаробнай?**

– Так. І збіраў я сваю першую штангу на звалцы: знайшоў два адломкі ад вагаметкі, нейкую палку – вось і штанга гатова. Стаў займацца сам, без усялякай спецыяльнай падрыхтоўкі. І калі ў 1960-м мама забрала мяне да сябе ў Мінск, у кватэру на Розы Люксембург, я ведаў: без спорту ў сталіцы не застануся.

**– Хаця пайшлі вы першапачаткова ў секцыю барацьбы…**

– Не, першапачаткова я пайшоў на "Дынама" – футболам хацеў займацца. А там групы вялікія – чалавек пад трыццаць, а мяч усяго адзін. Не паспеў на яго паглядзець – а яго ўжо забіраюць. Пахадзіў-пахадзіў і вырашыў: не, не маё. Потым была класічная барацьба. Займаўся я ў чэмпіёна СССР Фявілава. Паўгода патрэніраваўся – нават на адных спаборніцтвах выступіў, заняў пятае месца з шасці ўдзельнікаў. Першую схватку выйграў, другую таксама выйграў па ачках, а трэцюю… Выйшаў на барцоўскі дыван, павітаўся з сапернікам, секунда – і я на лапатках ляжу. Сапернік мой быў кандыдат у майстры спорту. Ну хоць пабітаца даў, і то дзякуй Богу! Засмуціўся я, бо па натуры заўзяты, славалюбівы чалавек, ды барацьбу і кінуў.

**– А са спартыўнай штангай як "сустрэліся"?**

– Аднойчы ішоў міма "Дынама", у вокны зазіраў… Гляджу: людзі штангу ўздымаюць. Прыйшоў у секцыю, так і застаўся на ўсё жыццё.

**– Пра алімпійскае золата марылі?**

– Мог адказаць, што не, але гэта не так. У мяне была мэта – стаць алімпійскім чэмпіёнам. Я страшэнна хацеў даказаць сабе, што чагосьці варты ў гэтым жыцці. Гэта ў мяне з дзяцінства, можа, таму, што без бацькі вырас… Хаця да Алімпіяды яшчэ дарасці трэба было, заслужыць, каб выступіць там, бо канкурэнцыя, як вы разумееце, была шалёная… Пачыналася ўсё для мяне з рэспубліканскага ўзроўню, потым былі чэмпіянаты СССР (*Валерый Шарый – чатырохразовы чэмпіён СССР, двухразовы чэмпіён свету і Еўропы*), а потым ужо – выступленні на чэмпіянатах свету і дзве Алімпіяды.

**– Першая ваша Алімпіяда прайшла ў Мюнхене 45 гадоў таму і была не вельмі ўдалай.**

– Я тады не адразу зразумеў, чаму ў мяне ва ўсіх падыходах "нулі". Я выходжу на памост, суддзя дае адмашку… а мяне разам са штангай назад вядзе. І хоць ты застраліся! Ну, думаю, у першым падыходзе так – з другой спробы спраўлюся. Ды дзе там! Выйшаў, узняў тую штангу, трымаю-трымаю, а мяне ўсё адно назад цягне… Страшэнна не люблю прайграваць, а тут… Псіхалагічна я тады зламаўся, "перагарэў", не змог сабрацца. А справа аказалася ў тым, што алімпійскі памост быў няроўны, яго зманціравалі крыва, таму мы там і "танцавалі". З той Алімпіяды зборная СССР вярнулася з "нулямі", затое праз чатыры гады ў Манрэалі ажно сем узнагарод узялі! Прарвала! Адным з алімпійскіх чэмпіёнаў стаў я.



**– Прэміяльныя за алімпійскае золата вялікія былі?**

– 5300 савецкіх рублёў. На "Жыгулі" хапала, а я хацеў "Волгу", якую ў рэшце рэшт і набыў… Але гэта машына вельмі цяжка далася. Вы прыкінце: за адну трэніроўку даводзілася ўздымаць то 5, то 10, то 25 тон…

Я не шкадую аб тым, як склалася маё спартыўнае жыццё, – здаецца, усё, што хацеў, я сабе даказаў. Прыемна ўзгадаць і свой рэкорд у трохбор'і – 527,5 кілаграма. Ён прызнаны вечным, бо такой дысцыпліны больш няма.

**– Што змянілася ў цяжкай атлетыцы за тыя гады, што вы ў вялікім спорце?**

– Шмат чаго, і многае, на вялікі жаль, не ў лепшы бок. Возьмем, напрыклад, сучасны падыход да допінгавых праблем. Зразумела, што ва ўсе часы цяжкаатлеты ўжывалі нейкія прэпараты – гэта ж якія нагрузкі, сэрца спыніцца можа. Раней як было: калі перад спаборніцтвамі атлет чысты, то няма да яго ніякіх прэтэнзій у выпадку перамогі. А зараз што? Праз дзесяць гадоў медаль забраць могуць! Я лічу, што гэта ненармальна. Гэта як па-новаму саджаць злачынцу пасля выхаду на волю: маўляў, вярніся, родны, дасядзі, бо, пакуль ты сядзеў, высветлілася, што ты не двойчы ўдарыў ахвяру, а тройчы. Гэтыя новыя антыдопінгавыя тэхналогіі проста руйнуюць вялікі спорт, дух спаборніцтва, калі хочацца.

**– Мо таму зараз людзі неахвотна ідуць займацца штангай?**

– Не таму. Калі ў мяе гады аптымальным узростам для пачатку актыўных заняткаў лічыліся 16–17 гадоў, то зараз наш від значна памаладзеў – можна прыводзіць дзяцей і ў 10 гадоў. А ў 10 гадоў пераважная колькасць цяперашніх дзяцей водзіць пальцамі ў планшэтах і смартфонах. Ім не да спорту. У Мінску ўвогуле з гэтым бяда. Вось праце мая школа: прыходзь, займайся штангай, усё бясплатна, калі задаткі ёсць – заставайся! Але не ідуць. Адна надзея на беларускія рэгіёны – там дзеці менш разбэшчаныя "дабротамі цывілізацыі"…

Але тым не менш самародкі, хоць іх мала, ёсць. Зараз я працую з 18-гадовым Рэнатам Рагімавым. Запомніце гэта імя. Дай Бог, паспею падрыхтаваць яго да алімпійскага памоста…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

## Дубочак зялёненькі

Словы і музыка народныя



Дубочак зялёненькі,
Іванька малодзенькі.
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі – } 2 разы
Іванька малодзенькі.

Іванька малодзенькі
Ідзе зажурыўшыся.
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі – } 2 разы
Ідзе зажурыўшыся.

– Чаго зажурыўся ты,
Чаго запячаліўся?
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі – } 2 разы
Чаго запячаліўся?

Ой, як мне вясёлым быць,
Ой, як не пячаліцца?
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі – } 2 разы
Ой, як не пячаліцца?

Мае ўсе таварышы
Даўно пажаніліся…
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі – } 2 разы
Даўно пажаніліся.

А я, маладзюсенькі,
Хаджу халасцюсенькі,
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі – } 2 разы
Хаджу халасцюсенькі.

– Іванька, Іванечка,
Душы не губі сваёй!..
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі – } 2 разы
Душы не губі сваёй.

Бяры дзеўку красную
За ручаньку белую…
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі – } 2 разы
За ручаньку белую.

Вядзі ў сваю хатачку,
Пацеш мамку, татачку!
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі – } 2 разы
Пацеш мамку, татачку.

